Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская 2—11
(Wilno, Ostrobramska 2—11).
Адчынена
ад 9 да 19 г.

Часапіс
выходзіць
раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал.
на паўг. 1 зал.
на 3 м-цы 50 гр.

№ 2 Вільня, 5-га ліпня 1936 г. Год I.

## Новая Савецкая Канстытуцыя.

У палове чэрвеня ўсе газэты падалі вестку з Масквы, што Цэнтральны Выканаўчы Камітэт СССР зацьвярдзіў праект новай канстытуцыі СССР, а каб гэты праект стаўся законам, дык на 25 лістапада г.г. склікаецца кангрэс саветаў, які мае гэты праект аканчальна пацьвярдзіць. Новая савецкая канстытуцыя мае вялікае значэньне як для нутранога жыцьця саветаў так і для вонкавай прапаганды і дзеля гэтага прысьвяцім ей болей увагі.

**Зьмест канстытуцыі.** Калгасы дастаюць зямлю на вечнае ўладаньне. Разам з сацыялістычным спосабам гаспадаркі дазваляецца прыватнае ўладаньне зямлёю, абапёртае на асабістай працы. Грамадзяне маюць права ўласнасьці на дамы, малыя гаспадаркі і прадметы дзеля асабістага карыстаньня.

У склад СССР уходзіць 11 саюзных рэспублік. Кожная рэспубліка мае сваю ўласную канстытуцыю і мае права выступіць зСССР. Закон СССР вышэй за закон аддзельнай рэспублікі.

Найвышэйшым органам заканадаўчай дзяржаўнай ўлады ёсьць Найвышэйшы Савет (Верховный Совет), які выбіраецца на 4 гады. Найвышэйшы Савет складаецца з 2 палатаў: Саюзнага Савету і Савету нацыянальнасьцяў.

У саюзны Савет выбіраюцца дэлегаты паводле нормы: адзін дэлегат на 300 тыс. насельніцтва. У Савет нацыянальнасьцяў выбіраюць дэлегатаў Найвышэйшыя Саветы саюзных і аўтанамічных рэспублік.

Прэзыдыюм Найвышэйшага Савету адказвае перад гэтым-жа Саветам і мае шырокія правы: можа абвяшчаць вайну, падпісваць мір, пацьвярджаць дагаворы з іншымі дзяржавамі і інш. Сябра Найвышэйшага Савету ня можа быць арыштаваны і пацягнены да адказнасьці бяз згоды Савету або яго прэзыдыюма.

Найвышэйшы Савет выбірае ўрад СССР: Савет народных камісараў.

Кожная саюзная рэспубліка мае свой Найвышэйшы Савет. Урад або народны Камісар павінен адказаць у працягу 3 дзён на інтэрпэляцыю дэпутата.

Царква ў СССР ёсьць аддзеленай ад дзяржавы, а школа ад царквы. Канстытуцыя гвexamples арантуе свабоду веравызнаньня, а так-жа свабоду анты-рэлігійнай прапаганды.

Гарантуецца так-жа свабода слова, друку, сабраньняў і саюзаў. Ніхто ня можа быць арыштаваны ў СССР, як толькі на падставе пастановы суду або пракурора.

Камуністычная партыя зьяўляецца перадавым органам працоўных і кіраўнічым цэнтрам (ядром) ўсіх арганізацыяў, як грамадзкіх так і дзяржаўных.

Загарантавана нятыкальнасьць кватэры, тайніца пісьмаў (на пошце). Загарантавана права прытулішча для чужаземцаў.

Выбары ў СССР агульныя, роўныя, беспасрэдныя і тайныя. Выбіраць і быць выбраным мае права кожны грамадзянін, які скончыў 18 гадоў. Выстаўляць кандыдатаў маюць права арганізацыі грамадзкія, камуністычна-партыйныя, прафэсыянальныя саюзы, арганізацыі моладзі, а такжа арганізацыі культуральныя.

Гэтак выглядае ў агульных рысах праект новай савецкай канстытуцыі. Цяпер разгледзім якія прычыны маглі выклікаць такую „лібэральную", як на савецкія адносіны, канстытуцыю, а такжа пададзём яе крытыку.

**Прычыны зьяўленьня і мэты.** Прычын зьяўленьня новай канстытуцыі трэба шукаць у нутраных і вонкавых труднасьцях, якія перажываюць саветы. Цяперашняя савецкая палітыка, як ведама, пайшла па лініі тварэньня ў загранічных дзяржавах гэтак зв. „народных фронтаў", пры помачы каторых саветы спадзяюцца разлажыць ўсе некамуністычныя арганізацыі і дзяржавы і ў рэзультаце завесьці камунізм на ўсім сьвеце. Але тварэньню „народных" фронтаў стаялі на перашкодзе закіды людзей, якія паказвалі на грамадзкі, нацыянальны і рэлігійны ўціск у саветах і дамагаліся зьмены савецкай палітыкі нават унутры СССР. Каб здаволіць гэтыя пажаданьні, камуністычная партыя апрацавала і апублікавала праект новай канстытуцыі, якая мае здаволіць нават французскіх рэнт'ераў, і пацягнуць іх да „народнага" фронту. Значыць, першай прычынай зьяўленьня новай канстытуцыі ёсьць падмога камуністычным агентам у тварэньні „народных фронтаў" заграніцай.

Але ня толькі камуністы выдалі новую канстытуцыю „на экспорт", яны мелі на ўвазе і нутраныя патрэбы, якія ізноў-жа зьвязаны з вонкавымі труднасьцямі, у якіх апынуліся саветы. Справа ў тым, што ў сучасны мамэнт палажэньне саветаў на міжнароднай арэне вельмі цяжкое, а нават грознае. Як ведама, з Усходу грозіць саветам Японія, а з Захаду — Нямеччына. Як адна так і другая дзяржава гатовяцца ісьці на саветы, чакаюць толькі адпаведнай часіны, каб пачаць вайну. Саветы аб гэтым добра ведаюць і ўсей сілай гатовяцца даць адпор. Але процій такіх волатаў, як Японія і Нямеччына, цяперашнія сілы саветаў заслабыя, дык трэба здабыць саюзьнікаў як ўнутры дзяржавы, так і заграніцай. Унутры дзяржавы трэба задабрыць перадусім сялян, якія былі зьненавідзеўшы камуністаў за іхнюю прымусовую социялізацыю (колектывізацыю) сялянскіх гаспадарак. Большасьць савецкай арміі — гэта сыны сялянскія, якія ў часе вайны маглі-б абярнуць вінтоўкі процій камуністаў... як процій сваіх гнібіцеляў... Дый урэшце ніводная армія ня будзе змагацца за зьненавіджаную ўладу, а ў рашучы мамэнт можа перайсьці на старану ворага. Дык каб зьмяніць настрої мас, камуністам трэба было пайсьці на ўступкі і даць сякую-такую свабоду сялянству і наагул насельніцтву ў СССР. Савецкія палітыкі гэтым спадзяюцца здабыць для сябе ў будучай барацьбе саюзьніка ўнутры дзяржавы і заграніцай, асабліва ў Францыі, якая мае ўстрымаць Нямеччыну ў яе імкненьнях наУсход...

Гэткія прычыны выклікалі зьяўленьне новай савецкай канстытуцыі і гэткія яе мэты.

**Крытыка канстытуцыі.** Ведаючы прычыны і мэты выданьня новай канстытуцыі, мы лёгка можам зразумець яе сэнс і значэньне. Прыгэтым трэба зьвярнуць увагу на два важныя мамэнты: *1) Камуністычная партыя астаецца пры ўладзе, 2) праграма камуністычнай партыі не падлегае зьмене.* Пры гэтых двух фактах зьмена канстытуцыі не адыгрывае большай ролі, бо рэжым астаецца той самы.

Гэта ёсьць агульныя ўвагі, а цяпер пяройдзем да разбору некаторых пунктаў канстытуцыі.

Прадусім калгасы, якія атрымаюць зямлю на вечнае ўладаньне. Нам здаецца, што гэта сялян не здаволіць,бо якая карысьць для селяніна, што адабралі ад яго ўласную зямлю, а далі калгас, як супольную маемасьць? Селянін будзе ісьці да таго,каб уладаць сваею ўласнаю зямлёю, а не супольнаю.

Потым справа Найвышэйшага Савету. Гэты орган заканадаўчай ўлады быў і даўней на падставе канстытуцыі з 1923 году, толькі называўся „Цэнтральный Исполнительный Комитет" або скарочана ЦІК, каторы складаўся таксама з двух палатаў: Саюзнага Савету і Савету Нацыянальнасьцяў. Значыць у гэтым няма нічога новага. Старшыня ЦІК-а таксама меў вялікія правы: ён прадстаўляўСССР навонкі і яму прадстаўляліся паслы заграничных дзяржаў.

Аб свабодзе рэлігіі ў саветах гаварыць лішне, бо там яе ўжо бадай няма, асабліва пасярод моладзі... Моладзь, выгадаваная у савецкіх варунках, ня мае ўжо ніякай рэлігіі, рэлігійным асталося яшчэ толькі старэйшае пакаленьне, якое ў вялікія сьвята запаўняе сьвятыні, але моладзі ў гэтых сьвятынях няма. Статыстыка гаворыць што ў 1923 г. было 67 прац. веручай моладзі мужчынскай і 72 прац. жаноцкай. А ў 1936 г. — толькі 1 працэнт мужчынскай і 12 прац. жаноцкай. Відаць, савецкія палітыкі рашылі, што для гэтай рэшты веручай моладзі можа быць дадзена і свабода веравызнаньня, як і для старэйшага вымірающага пакаленьня.

Лішне гэтаксама гаварыць аб свабодзе слова, друку, сабраньняў і саюзаў, бо кожны ведае, што ў СССР іншага слова і іншага друку, апроч камуністычнага, няма, а для камуніст. заўсёды была свабода. Тое самае адносіцца да сабраньняў і саюзаў, якія знаходзяцца пад сьціслай кантроляй камуністычнай партыі.

Нятыкальнасьць кватэраў і тайніца пісьмаў (на пошце) загарантавана ва ўсіх буржуазных дзяржавах, а як гэта „гваранцыя" выконваецца, мы добра ведаем.

Выбары ў заканадаўчыя савецкія ўстановы ёсьць агульныя, роўныя, беспасрэдныя і тайныя, але кандыдатаў выстаўляць маюць права арганізацыі, якія знаходзяцца пад загадамі камуністычнай партыі. І гэты спосаб нам ведамы. Ён тасуецца у тых дзяржавах, у якіх правячая партыя хоча астацца пры ўладзе.

Дзеля гэтага ўважаем, што галоўным пунктам у новай сав. канстытуцыі ёсьць артыкул, у каторым гаворыцца, што „камуністычная партыя зьяўляецца перадавым органам працоўных і кіраўнічым цэнтрам („ядром") ўсіх арганізацыяў, як грамадзкіх, так і дзяржаўных". Гэты пункт ёсьць найважнейшым месцам ва ўсей канстытуцыі. Ён кажа, што камуністычная партыя ўлады не зракаецца і не перадае яе ў рукі народу, але будзе далей дзяржаць уладу і праводзіць сваю праграму.

Жыцьцёвая практыка нас вучыць, што ня так важна тое, што напісана ў канстытуцыі, як тое, як яна выконываецца. Бо мы знаем дзяржавы, у каторых таксама была зьменена канстытуцыя,але фактычна ўсё асталося падаўнейшаму, бо пры ўладзе асталіся тыя самыя людзі. А з тымі самымі людзьмі астаецца і той самы рэжым.

Аб тым, што ў Саветах астаўся той самы рэжым адносна беларусаў, сьведчыць факт перайменаваньня Беларускай Акадэміі Навук у Менску на Акадэмію Навук Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. Значыць Беларуская Акадэмія Навук ужо перастае быць Акадэміяй *Беларускай*, але робіцца інтэрнацыянальнай: беларускай, расейскай, польскай, жыдоўскай і г.д.Факт гэты меў места зараз перад абвяшчэньнем праекту новай савецкай канстытуцыі. Гэты факт многа гаворыць: ён

# Два кірункі польскай асыміляцыйнай палітыкі.

Падаючы ніжэй рэцэнзію п'есы Ж. Нагродзкага „На Каляды", трэба зьвярнуць увагу на тэндэнцыю гэтай п'есы. Кідаецца прадусім у вочы, што матыў п'есы ўзяты з ваколіц Зулава, бацькаўшчыны марш. Пілсудскага, што выканаўцамі п'есы былі вучні і вучаніцы польскіх урадавых гімназіяў, што сама п'еса напісана ў польскай г. зв. „мэйшагольскай" гаворцы. Праўду кажучы, гэтая тэндэнцыя мае для польшчыны і слабыя бакі, бо сьведчыць, што на бацькаўшчыне марш. Пілсудскага пяялі песьні пабеларуску, што ў нашым краі няма чыстай польскай гаворкі, а ёсьць толькі нейкая „мэйшагольская" мяшанка і г. д., але паміма гэтага п'еса мае на воку і карысьць для польскай палітыкі ў нашым краі, тымболей, што яна зьявілася на сьвет і была пастаўлена пры помачы Віленскай Школьнай Куратboard, якая нават не пашкадавала грашэй на куплю для артыстаў беларускіх нацыянальных вопратак...

Якія-ж могуць быць тэндэнцыі ў гэтай п'есе?

Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба пазнаць кірункі цяперашняй польскай асыміляцыйнай палітыкі адносна нас, беларусаў.

Гэтых кірункаў ёсьць два: адзін імкнецца да *дзяржаўнай* асыміляцыі беларусаў, а другі да *нацыянальнай* асыміляцыі. Першага кірунку дзяржацца г. зв. „дэмакраты", або прыхільнікі палітыкі фэдэрацыйнай Польшчы з Беларусьсю і Украінай, а другога кірунку—польскія эндэкі і кансэрватысты.

Прыгледзімся да кожнага з гэтых кірункаў.

*Дзяржаўная асыміляцыя.* Сутнасьць дзяржаўнай асыміляцыі ў тым, што дзяржава не адбірае іншым нацыянальнасьцям („меншасьцям") іхнай мовы, культуры, звычаёў, а толькі стараецца прывязаць іх да тэй дзяржавы, у каторай яны знаходзяцца, у гэтым выпадку, да Польшчы. Цяперашнія польскія ўрадавыя дзейнікі сталі на грунце дзяржаўнай асыміляцыі адносна ўкраінцаў на Валыні і ў Галіччыне. Там нават бачым цяпер помач і спагаднасьць да ўкраінскага руху, калі ён становіцца на грунт польскай дзяржаўнасьці.

Спробы дзяржаўнай асыміляцыі маем і на грунце беларускім. І так — у польскім часапісе „Pod Prąd" (Nr. 3 г. г.), які выходзіць пад рэдакцыяй вышэйшых урадаўцаў з Віл. Школьн. Куратoryі, зьмешчаны артыкул над заг. „Sprawa białoruska", у каторым пад канец чытаем такія сказы: „Дык калі полёнізацыйная акцыя, каторая дагэтуль выключна была тасавана да беларускай меншасьці, не прынясла пажаданага рэзультату, але нават прычынілася да ўзмацаваньня нацыянальнай жывучасьці, трэба яе заступіць чым іншым. Праграме нацыянальнай асыміляцыі процістаўвіцца ідэя працы над здабыцьцём меншасьці для польскай дзяржаўнасьці. Выходным пунктам у гэтай працы ёсьць прынцып стварэньня такіх варункаў жыцьця данае меншасьці, каб яна магла быць здаволена з прыналежнасьці да нашае дзяржавы".

Далей падаюцца тры спосабы, пры помачы якіх можна прывязаць беларускую „меншасьць" да Польскай дзяржавы: 1) паправа гаспадарчага бытаваньня сялянства, 2) спагадлівыя адносіны адміністрацыйных уладаў да беларускіх народных асаблівасьцяў і 3) здабыцьцё для гэтых мэтаў апініі польскага грамадзянства, якое стаіць на грунце нацыянальнай асыміляцыі.

Гэтак выглядае справа дзяржаўнай асыміляцыі беларусаў, нясьмела ўводжанай некаторымі польскімі дзейнікамі, каб потым перайсьці да асыміляцыі нацыянальнай.

*Нацыянальная асыміляцыя.* Сутнасьць яе, гаворачы проста, у тым, каб з беларусаў зрабіць палякоў. Нацыянальную асыміляцыю праводзяць эндэкі і кансэрватысты (абшарнікі). Яны пры помачы касьцёла (царквы), школы, адміністрацыі, самаўрадаў і іншых установаў спадзяюцца спольшчыць беларусаў. Міністар Скульскі (эндэк) ў 1920 годзе быў нават назначыўшы час поўнага спольшчаньня беларускага насельніцтва ў Польшчы: ён быў назначыўшы на гэта ня болей ня меней як *50 гадоў*. Значыць, да 1970 году, паводле вырахаваньня Скульскага, беларусы ў Польшчы маюць быць спольшчаны. Да гэтага ідуць эндэкі.

На грунце нацыянальнай асыміляцыі стаяць і польскія кансэрватысты. Прадстаўнік іх у Вільні, рэдактар „Słowa п. Мацкевіч, надрукаваў праграму „на сяньняшні дзень". У гэтай праграме адносна нацыянальных меншасьцяў Мацкевіч радзіць дзяржацца такога правіла:

1) адносна ўкраінцаў—угода, і то ўгода шчырая і далёка-ідучая.

2) адносна немцаў—лагодная асыміляцыя.

3) адносна беларусаў—асыміляцыя.

З гэтага выглядае, што п. Мацкевіч да беларусаў ня хоча стасаваць нават лагоднай асыміляцыі, а проста радзіць браць — і асыміляваць, бяз ніякай цэрэмоніі...

Калі нядаўна адзін жыдоўскі публіцыст заявіў, што жыды пры царызьме баранілі польшчыны, то п. Мацкевіч назваў тую заяву жыдоўскага публіцыста цынізмам (bezczelnością) і дабавіў, што не забудзе гэтых слоў праз 10 гадоў; дык і мы можам сказаць пану Мацкевічу, што гэтых ягоных слоў аб асыміляцыі беларусаў не забудзем праз 10 гадоў і болей. Настолькі яны цынічныя. Але яны адкрываюць нам мэты і імкненьні польскіх паноў. І гэта добра.

Варочаючыся да п'есы „На Каляды", мы адкажам на пытаньне, якую-ж тэндэнцыю мае гэта п'еса? Нам здаецца, што яна ёсьць першай ластаўкай кірунку, які ідзе да дзяржаўнай асыміляцыі беларусаў, асыміляцыі, якую пашырае часапіс „Pod Prąd". Але не забывайма, што праз дзяржаўную асыміляцыю ідзецца і да асыміляцыі нацыянальнай... Гэта беларусы павінны ведаць.

*С. К—і.*

---

сьцвярджае, што ў Сав. Беларусі нішчэньне ўсяго беларускага цягнецца далей... Новая савецкая канстытуцыя гэтага нішчэньня ня спыняе.

---

# На беларускім грунце.

(*Агляд беларускага жыцьця*).

### Школьная акцыя.

Як ужо ведама, гэты 1936 год быў абвешчаны Беларускім Інстытутам Гасп. і Культуры і Таварыствам Бел. Школы годам складаньня дэкляpацыяў на родную беларускую школу. З гэтай мэтай дня 26. II. г. г. была выдана ў гэтай справе супольная дэклярацыя абодвух арганізацыяў, а 29 гэтага-ж лютага адозва да Беларускага народу.

Супольнае выступленьне двух арганізацыяў некаторых зьдзівіла і нават насунула падазрэньні, што за плячамі гэтых арганізацыяў стаіць нехта трэці. Рашуча адкідаючы ад сябе гэтае падазрэньне, мы заяўляем, што ініцыятыва школьнай акцыі паўстала ў кругох беларускіх патрыётаў, згуртаваных каля Бел. Інстытуту Г. і К. і Бел. Нац. Камітэту. Ім удалося, пасьля доўгіх перагавораў, прыцягнуць да гэтай акцыі і Т-ва Бел. Школы.

Думка школьнай акцыі паўстала пару гадоў таму назад, але праводжаньне гэтай думкі ў жыцьцё пачалося ў лістападзе месяцы 1935 г., калі „Kurjer Wileński" (дн. 26. XI. 1935 г.), пішучы аб беларускім школьніцтве і ўсьведамленьні беларусаў, падаў крыўдныя для беларускай нацыянальнай годнасьці словы, што „ў галіне народнага школьніцтва кідаецца ў вочы адсутнасьць жаданьняў школы ў роднай мове і многія дэклярацыі на ўвядзеньне польскае мовы". Над гэтымі славамі „Kur. Wil.", узятымі быццам з рэфэрату аб школьніцтве Віл. Шк. Куратара, беларусы не маглі прайсьці да парадку дня і ад гэтага часу пачынаецца рэалізацыя школьнай акцыі.

Чаму школьную акцыю не праводзіць аддзельна кожная арганізацыя, але супольна?

На гэта было многа прычын. Прадусім умовы матэр'яльныя.

---

# „НА КАЛЯДЫ".

(*Народны абразок з беларускага* (*жыцьця з ваколіц Зулава*).

У польскім музычным тэатры „Lutnia" дн. 24. V. г. г. ставілі ўжо трэці раз на віленскіх сцэнах сцэнічны абразок з сьпевамі і танцамі „На Каляды" ў апрацоўцы Ж. Нагродзкага. Абразок гэты ўзяты з ваколіц Зулава, Сьвянцянскага павету (бацькаўшчына марш. Я. Пілсудскага) і прадстаўляе беларускую вечарыну з вёскі Балюлі ў 1876-77 гадох. Ж. Нагродзкі прадстаўляе гэту вечарыну паводле ўласных успамінаў з сваей моладасьці, калі яшчэ, будучы хлапцом, прымаў удзел у падобных вечарынах. Рэжысэраваў гэту п'еску Ўл. Дронжкоўскі, інструктар Аддзелу Зашкольнай Асьветы пры Вілен. Школьнай Куратoryі, а мэлёдыі песьняў і прыпеваў пры танцах апрацавала Бр. Гавронская. Выканаўцамі была моладзь польскіх гімназіяў: ім. Ад. Чартарыйскага (жаноцкая) і ім. Ад. Міцкевіча (мужчынская).

Беларуская прэса, паколькі нам ведама, прайшла каля гэтай п'ескі моўчкі, а шкада, бо дзеля аўтара, які яе напісаў, а такжа дзеля асоб, якія яе рэжысэравалі і выконвалі, варта было на яе зьвярнуць большую ўвагу, як на знак часу і пэўных тэндэнцыяў.

Прадусім які зьмест п'есы?

Зьмест, як мы ўжо казалі, аўтэнтычнай беларускай вечарыны 60 гадоў таму назад. Гэткія вечарыны зімою, асабліва на Каляды, ладзяцца агульна па ўсей Беларусі. Дзеючыя асобы такія: гаспадар, гаспадыня, дзьве іх дочкі і сын, хлопцы і дзяўчаты з вёскі, апроч гэтага музыканты, журавельнікі і дзеці. Усе прыбраныя ў нацыянальныя беларускія вопраткі. Акцыя адбываецца ў хаце, ўстроенай трохі не ў беларускім стылі. Стары гаспадар сядзіць, то ляжыць на ложку, курыць люльку і то ганіць, то хваліць сьпеў моладзі. Гаспадыня таксама, але яна сваімі ўвагамі кіруе ўсей вечарынай. З боку моладзі да старэйшых заўважваецца вялікая пашана. Спачатку пяюць беларускія песьні, а потым танцуюць. Песьні, трэба прызнаць, чыста беларускія, народныя; выкананьне вельмі добрае. Таксама і танцы. Прызнаюся, што хоць я быў нязьлічоныя разы на беларускіх прадстаўленьнях, але ніколі ня бачыў танца „Таўкачыкі", а п. Нагродзкі дастаў яго з сівой мінуўшчыны і паказаў на сцэне. Танец гэты танцуе хлапец адзін, узяўшы ў рукі два таўкачы (згэтуль і назоў „Таўкачыкі") і гэтымі таўкачамі робіць розныя эволюцыі і фігуры. Прызнаюся, што танец ня толькі мне спадабаўся, але зрабіў на мяне вялікае ўражаньне: ён выказаў сілу і магутнасьць беларускіх рук, якія пры працы маюць столькі жыцьцявой энэргіі. Разам з гэтым танец адбіваў адзін з мамэнтаў беларускай супольнай працы (пры ступе пры таўчэньні куцьці), дзе кожны хлапец хоча выдзяліцца сваей сілай. Рытміка танца—гэта рытміка таўчэньня куцьці. Дзеля гэтых матываў танец гэты павінен быць уведзены ў заўсёдны рэпэртуар беларускіх імпрэзаў. Апроч таўкачыкаў была і нашая слаўная „Лявоніха", якая хараством касуе ўсе народныя танцы нашых суседзяў; была і мяцеліца (адмена „Лявоніхі"), быў „Юрка" і інш. Была таксама забава ў „Яшчара". Забава гэта палягае на тым, што хлапец ускладае на галаву каўпак, прышпільвае бараду, садзіцца на ўслоне і робіць розныя сьмешныя міны. У гэты час са сьпевам да яго падыходзяць па аднэй дзяўчаты; калі дзяўчына не засьмяецца пры агульнай вясёласьці, ня плаціць ніякага выкупу, а калі засьмяецца, то выкупляецца рознымі спосабамі. Потым прывялі вялізарнага жураўля, (пераадзетага хлапца), які сваей клюмкай наводзіў страх на ўсіх. Трэба прызнаць, што вечарына прайшла з жыцьцём і вясёласьцяй.

А цяпер пытаньне: ці яна была чыста беларускай?

На гэтае пытаньне трэба адказаць, што не, яна была ўтраквістычнай, польска-беларускай. Відаць, цяпер такая тэндэнцыя пэўных кругоў. У гутарцы паміж сабою дзеючыя асобы ўжывалі тутэйшай, або лепш кажучы, „мэйшагольскай" гаворкі, якою прамаўляе часам праз віленскае радыё п. Валэйка, або цётка Альбінова. Праўду кажучы, гэтая гаворка ёсьць нейкай пародыяй і польскай і беларускай мовы. Дзівіцца трэба, што гэтая мова некаторым асобам падабаецца.

Пасьля прадстаўленьня меў я аказію пагаварыць з аўтарам п'есы, п. Нагродзкім. Пытаюся паміж іншым, ці сапраўды гэтак гаварылі каля Зулава ў 1876-77 гадох, як гэта пададзена ў п'есе? Бо, кажу, даецца вычуць вялікі дысонанс паміж гаворкай дзеючых асобаў і паміж чыстымі беларускімі песьнямі, якія пяяліся на вечарыне. Адказ атрымаў, што зусім так у той час не гаварылі, а гаварылі болей пабеларуску... Дык чаму і Вы ня ўвялі і мовы тагачаснай, арыгінальнай? — пытаюся, але на гэтае пытаньне не ўдалося мне атрымаць адказу, бо якраз артысты папрасілі п. Нагродзкага да супольнай фатаграфіі...

Каб гэтая п'еса атрымала беларускі тэкст у гутарцы артыстаў і пазбылася пэўных тэндэнцыяў, дык была-б чыста беларускай п'есай. Скора, здаецца, яна мае быць аддадзена ў друк, чакаюць толькі на прыгатаўленьне да друку песьняў. Аднак пры ўсіх недахопах сваіх, п'еса зрабіла ўражаньне дадатняе. Трэба ўзяць пад увагу і тое, што ня ўсе артысты паходзілі з беларускага асяродзішча, для некаторых вымаўляньне беларускіх слоў, як мяне інфармаваў п. Нагродзкі, станавіла вялікую труднасьць (асабліва вымаўляньне кароткага „ў" напр. у слове „праўда", „ўдованька", і стаўляньне націскаў), аднак пры ўсім гэтым выносілася ўражаньне, што на сцэне ня польская моладзь, а беларуская. У песьнях заўважыў толькі адну дробную памылку ў вымаўляньні: замест „пара**дак**", пяялі „пара**док** ідзець" (у песьні: „Чаму-**ж** мне ня пець"...) Песьні ва ўсім іншым, як адносна мэлёдыяў так і выкананьня, прайшлі бяз закіду. Сапраўды, чуючы польскую моладзь так стройна пяючую і так мілагучна вымаўляючую нашу песьню, аставалася толькі шкадаваць, што гэта моладзь польская, а не беларуская. А для нас, беларусаў, прыклад, як трэба шанаваць нашу песьню, якая зьяўляецца вялікім нашым скарбам. Нажаль, нашыя мастакі і выканаўцы не заўсёды могуць пахваліцца вялікай культурай беларускай песьні. Часам яна ў музычнай апрацоўцы гучыць зусім чужою... На гэта трэба зьвярнуць увагу.

*Глядзельнік.*

Для правядзеньня школьнай акцыі патрэбны адозвы, інструкцыі, патрэбен апарат высылкі друкаў, прыйманьня і г. д. Пры аддзельнай акцыі кошты ўсяго былі-б двайныя, а пры супольнай—куды меншыя.

Другой прычынай была баязьнь далейшага падзелу нашага народу на партыі і кірункі. Замест школьнай акцыі пайшлі-б споры паміж „тэбэшоўцамі" і „інстытутчыкамі", у якую арганізацыю зьвярнуцца і замест школьнай акцыі магла-б паўстаць палітычная акцыя. Быў також праект прыцягнуць да супольнай акцыі і ТБА, але як гэтая арганізацыя ня мае ў народзе ніякіх уплываў, праект быў закінуты.

Гэтыя матывы давялі да супольнай школьнай акцыі і да стварэньня супольнага сакратарыяту ТБШ і БІГ і К. Далучаючыся да школьнай акцыі разам з БІГ і К, кіраўнікі ТБШ паставілі варунак, каб школьны Сакратарыят не памяшчаўся на Завальнай 1, як раней праектавалася, а на Каралеўскай 3-8, на што Бел. Інстытут Г. і К. згадзіўся. Гэтакім парадкам паўстала супольная школьная акцыя дзьвух найбольшых беларускіх прасьветных арганізацыяў.

Што-ж пасьля? Калі школьная акцыя пачала разьвівацца, да яе пачалі прымазвацца розныя „памагальнікі", якія ня толькі не памагаюць, але шкодзяць справе. Такімі „памагальнікамі" зьявіліся: ТБА і—камуністы.

ТБА ў „Родным Краю" дало абвестку, што толькі яны, палёнафілы, могуць даць беларусам родную школу, а камуністы выпусьцілі лістоўку, што ўся школьная акцыя, якую праводзяць БІГ і К і ТБШ—гэта іх акцыя і затым загадываюць усім сябром КПЗБ прыняць у ёй самае дзейнае ўчасьце... У гэтым падыходзе ёсьць ня толькі правакацыя, але і сьведамае шкоджаньне школьнай акцыі. Можа камуністы баяцца, што калі беларускае насельніцтва здабудзе для сябе беларускую школу, дык адвернецца ад камунізму? А можа хоча сьцягнуць рэпрэсіі на тых, хто будзе дамагацца беларускай школы і гэтым паглыбіць рэволюцыйныя настроі ў масах? Усё магчыма.

Як чуваць, школьная акцыя спаткалася на правінцыі з вялікай контракцыяй розных дзейнікаў. Калі-б у гэтай контракцыі бралі ўдзел толькі прыватныя дзейнікі і нават польскае, ці лепш кажучы, спалянізаванае грамадзянства, мы глядзелі-б на гэта, як на прыкрае, але нармальнае зьявішча, бо сам закон з дня 31. VII. 1924 году ўводзіць у школьную справу элемэнт змаганьня паміж прыхільнікамі польскай і беларускай школы. Але калі закон дапускае гэтае змаганьне ў форме складаньня адпаведных дэклярацыяў, то афіцыяльныя дзейнікі (адміністрацыйныя і самаўрадавыя ўлады) павінны толькі даглядаць, каб акцыя праводзілася правільна, без парушэньня закону. Тымчасам да нас даходзяць весткі вельмі прыкрыя, што легальная школьная акцыя спатыкае на правінцыі вялікія труднасьці з боку войтаў і паліцыі. І так—войты ня хочуць падцьвярджаць дэклярацыяў, а паліцыя ўсякімі спосабамі (адбіраньнем адозваў і інш. друкаў, застрашваньнем і г. д.) процідзейнічае школьнай акцыі. Факты будуць пададзены ў свой час адпаведным уладам. Такое адношаньне самаўрадавых і адміністрацыйных уладаў уважаем за вялікую крыўду для Беларускага народу. Бо калі пішацца ў газэтах, што беларускае насельніцтва сваіх школаў не жадае, а падае дэклярацыі на школы польскія, то справядлівасьць вымагае даць гэтаму насельніцтву сапраўдную магчымасьць выяўленьня сваей волі. Тагды акажацца, ці беларусы хочуць сваей школы, ці ня хочуць.

Школьная справа настолькі важная, што ўсе беларусы, бяз рожніцы палітычных і грамадзкіх пракананьняў, павінны прыняць у ёй самы гарачы ўдзел.

А ўсіх няпрошаных памагальнікаў мы просім адыйсьці проч.

**„За беларускую школу".**

Пад гэтакім назовам выйшла 16. VI. г. г. аднаднёўка, прысьвячаная школьнай акцыі. Аднаднёўка была сканфіскавана адміністр. уладамі.

**„З о л а к".**

У чэрвені г. г. зьявіўся 1 (7) нумар непэрыядычнага часапісу „Золак", органу маладой беларускай сацыялістычнай думкі. Часапіс выходзіць ужо 4-ты год і выйшла ўсяго 7 нумароў. Такое рэдкае зьяўляньне ў сьвет часапісу тлумачыцца цяжкімі матар'яльнымі варункамі рэдакцыі. Хоць мы далёкі ад сацыялістычнай думкі (ўважаем яе чужою для беларускага народу), то ўсёж-такі зьяўленьне органу сацыялістычнай думкі, ды яшчэ *маладой і беларускай*, трэба было-б прывітаць, як новы, арыгінальны кірунак *беларускай* палітычнай думкі. Аднак паміма ўсіх сымпатыяў для саматужнай і ахвярнай працы рэдактароў „Золаку", мы маем адносна іх пачынаньняў некаторыя засьцярогі.

Перадусім, чытаючы „Золак", мы ня можам дасьледзіць ідэолёгічнага зьместу гэтай „*маладой*" сацыялістычнай думкі. Мы ведаем, што сацыялістычная думка ўжо даволі старая і дзеліцца на некалькі кірункаў (камуністы, эсдэкі, эсэры, наці і г. д.). З двух апошніх нумароў, якія мы маем прад сабою, ня можна зрабіць ніякіх канкрэтных вывадаў, якога кірунку дзяржыцца „Золак", дый сама рэдакцыя „Золаку" свайго кірунку ня выявіла. Ад рэдакцыі ў сьнежнявым нумары з 1935 г. было напісана: «галоўным заданьнем „Золака" ёсьць пашырэньне і ўмацаваньне ў нашым грамадзянстве засадаў сацыялізму, бо мы перакананы, што толькі сацыялізм можа задаволіць патрэбы і жаданьні нашага працоўнага народу"—але з гэтых слоў яшчэ ня відаць кірунку, якога дзяржыцца „Золак". Прыватна мы даведваемся, што група «Золаку» дзяржыцца эсэраўскага кірунку, але тут ізноў трэба сьцьвердзіць, што эсэраўшчына ёсьць ані маладым, ані беларускім кірункам, а ёсьць старым *расейскім* кірункам, так як марксызм ёсьць кірункам жыдоўскім (і дзеля таго інтэрнацыянальным), як нац-сацыялізм—нямецкім і г д. Эсэрызм (сацыял-рэволюцыянізм) узрос на грунце расейскай «общины» і змаганьня проціў царызму. У нас няма ані аднаго элемэнту («общины»), ані другога (царызму), дзеля гэтага ўважаем, што эсэрызму на беларускі грунт перашчапіць ня ўдасца. Тут ён засохне. На наш пагляд, адна толькі рацыя апраўдывае існаваньне эсэрызму на нашым грунце — гэта змаганьне з камунізмам, які ў многім заступіў даўнейшы царызм. Але гэта будзе толькі нэгатыўная рацыя існаваньня, якая на далейшую мэту ня вынясе, а пазытыўнай рацыі, як у расейцаў «община», у нас няма.

Апроч гэтага заганай «Золака» ёсьць тое, што ён ня будуе сваей уласнай ідэолёгіі, а толькі крытыкуе чужыя (БХД-БНА, Нац-Сац. і інш.). Думаем, што тады толькі «Золак» апраўдаў-бы сваё існаваньне, калі-б ён стаўся органам сапраўды новай арыгінальнай беларускай сацыялістычнай думкі. Тады асталося-б толькі пажадаць яму посьпеху ў абагачэньні беларускай грамадзкай думкі яшчэ адным кірункам.

Добра было-б так-жа выявіць людзей, якія ўваходзяць у рэдакцыйную калегію і працуюць над новай ідэолёгіяй. Уважаем, што ананімнасьць у беларускім жыцьці павінна быць пакінута. У канцы згаджаемся з рэдакцыяй «Золака», што мэтады змаганьня «Бел. Крыніцы» з сваімі праціўнікамі праз закідываньне ім дэфэнзыўшчыны ёсьць няэтычныя і неграмадзкія. Такія мэтады павінны быць выпалены з беларускага жыцьця гарачым жалезам. Яны былі ўведзены „Грамадою" і „Змаганьнем".

**Хочуць злучыць БІГ і К і ТБШ бяз іх ведама і згоды.**

„Б.Крыніца" выступіла ў апошнім (31) нумары з праектам злучэньня БІГ і К. і Т.Б.Ш. у адну арганізацыю. Мы ня ведаем, што прымусіла „Б. Крыніцу" выступіць з такім праектам, але мы павінны тут адзначыць, што гэты праект нерэальны. *На яго ня пойдуць ані БІГ і К ані ТБШ.* Ужо пару месяцаў таму безадказнымі кругамі (або як цяпер называюць „заплеччам") была паднята справа ліквідацыі ТБШ, як арганізацыі „запэцканай" і непатрэбнай і ўліць яе ў Бел. Інстытут Г. і К. але тады на гэты праект не пайшлі ані БІГ і К ані ТБШ. Уважаем, што прапазыцыя самаліквідацыі ТБШ. ёсьць абразьлівай для гэтай заслужанай арганізацыі, якая, на наш пагляд, павінна аднавіцца, атрасьціся ад розных „апякуноў", якія да яе прысталі і разам з Інстытутам праводзіць беларускую культурную працу, як гэта робіцца ў школьнай акцыі. Пачаткі ужо, здаецца, зроблены, трэба ісьці далей. Дык не ліквідацыя і не злучэньне,(бо кожная арганізацыя мае свой собскі характар і на беларускім грунце патрэбна), а скоордынаваная праца і еднасьць павінны быць клічам як аднэй так і другой арганізацыі.

**Камунікаты Б.Н.А.**

„Б. Крыніца" без канца друкуе даўзёрныя камунікаты Б.Н.А., аб каторым мы пісалі ў прошлым нумары „Б. Фронту", што „гэтая арганізацыя перажывае нейкі крызыс, шукаючы новых дарог і новай палітычнай арыентацыі". Ці знайшла гэтыя новыя дарогі, ці вярнулася на старыя—з апошніх камунікатаў згадаць трудна. Камунікат з дня 16.VI. г. г. сваім стылем і зьместам робіць уражаньне, што асталася на бездарожжы. Жаданьні адносна Саветаў сфармулаваны вельмі асьцярожна (у пункце12-ым), адносіны да „народнага" фронту таксама (пункт 9).

Папраўка ў параграфе 1 абноўленай праграмы БНА (каб замяніць сказ: „БНА проціў усякай дыктатуры, як капіталізму, фашызму, камунізму і інш." сказам: „БНА проціў усякай дыктатуры, якая з сабою нясе паняволеньне народаў і працуючых масаў") — прынята на падставе анкетнага галасаваньня.

Кракаўскі „Nowy Ustrój" (№ 6 з дн. 6.VI г. г.), падаючы асновы будучага „народнага" фронту ў Польшчы, вылічае також партыі, якія мелі-б права ўвайсьці ў гэты фронт. Вось-жа побач з польскімі сацыялістычнымі і людовымі партыямі (Stronnictwo Chłopskie,Stronnictwo Ludowe) называе так-жа і Беларускае Народнае Аб'еднаньне, якое мела-б права ўвайсьці ў гэты фронт... Кідаецца ў вочы яшчэ і тое, што з усіх г. зв. меншасьцёвых (беларускіх, украінскіх, літоўскіх) партыяў, толькі Б. Н. А. заслужыла на гэтае права...

Трэба каб голас польскай прэсы ведала і беларускае грамадзянства. „Nowy Ustrój" належыць да органаў г.зв. польскай лявіцы,якая арганізуе ў Польшчы „народны" фронт. Аб ідэолёгічных асновах гэтага „народнага" фронту будзем пісаць у наступным нумары.

**Праект пабудаваньня ў Вільні „Беларускага Дому".**

29 чэрвеня г. г. адбылося ў Вільні ў Бел. Каапэратыўным Банку сабраньне ініцыятыўнай групы, паставіўшай на парадак дня пабудаваньне Беларускага Дому.Праект на першы пагляд фантастычны, пры бліжэйшым аднак абзнаямленьні, паказаўся зусім рэальным. Праект не апіраецца выключна на ахвярнасьці, а больш на каапэратыўных асновах, значыць,мае стварыцца каапэратыў будоўлі „Бел. Дому" ў Вільні. Каапэратыў мае быць ўласьнікам гэтага дому. Пай выносіць 100 зл., платных адразу, або часткамі ў працягу году. Пры павярхоўным аблічэньні асоб, прадусім з правінцыі, якія маглі-б унесьці па адным паі, аказалася 150 чалавек, што выносіць 15 тысяч зл., а быццам ёсьць асобы, якія гатовы ўнесьці і па некалькі паёў. Гэта ўжо станавіла-б суму, з каторай можна было-б прыступіць да працы. Дзеля зарганізаваньня такога каапэратыву быў выбраны арганізацыйны камітэт у такім складзе: А. Будзька, Л. Дубейкаўскі, кс. В. Гадлеўскі, Ф. Стэцкевіч, М. Шкелёнак, які ўжо прыступіў да працы і мае выдаць адозву ў гэтай справе да беларускага грамадзянства.

Пабудаваньне „Беларускага Дому" ў Вільні мае вялізарнае значэньне для беларускай культуры. У гэтым доме мясьціўся-б беларускі музэй, бібліятэка, беларускі тэатр, бел. арганізацыі, выкладовая саля і г. д. Гэта быў-бы сапраўды цэнтр беларускага жыцьця ў Вільні і для ўсяго краю. Пабудаваны сваімі ўласнымі беларускімі сіламі, ён сьведчыў-бы аб сьпеласьці беларускага грамадзянства і быў-бы сымбалем далейшага будаўніцтва...

**Юбілей Гуртка БІГ і К.**

Дня 12 ліпня г.г. гурток БІГ і К у Жодзішках ладзіць сьвяткаваньне 10-ых угодкаў свайго існаваньня. Дзеля гэтага адбудзецца ўрачыстая Акадэмія з такой праграмай:

1) Рэфэрат: „Асьвета як дзейнік культуры і цывілізацыі" прачытае К. Чартовіч, 2) Справаздача з культурна-асьветнай дзейнасьці гуртка ад 12.VII.1926 г. да 12.VII. 1936 г., 3) Хор прапяе некалькі беларускіх народных песьняў, 4) дэклямацыі. Потым адбудзецца супольная гарбатка і таварыская забава. Пачатак а 14-ай гадзіне. Уваход бясплатны.

„Беларускі Фронт" з прычыны гэтага юбілею перасылае Гуртку свае гарачыя пажаданьні далейшай карыснай працы для дабра Бацькаўшчыны — Беларусі.

# На міжнародным грунце.

(*Агляд міжнароднай палітыкі за месяц чэрвень*).

**Хаваюць Абісынію...**

Паховіны Абісыніі наладжваюцца паводле ўсяго дыплёматычнага цэрэмоніялу. У паховінах прыймаюць удзел і ворагі і „апякуны", асабліва Англія, якая ўжо годзіцца і з Францыяй і з Італіяй. Прыгатаваньні да паховін ужо зроблены: склікана Ліга Народаў, на якую паехаў і сам нэгус, каб быць прысутным на жалобнай цэрэмоніі. Паехаў ён, каб бараніць сваей бацькаўшчыны, даказваючы, што існуе яшчэ абісынскі ўрад і што абісынцы яшчэ змагаюцца з захопнікамі.

Муссоліні заявіў, што італійская дэлегацыя не паедзе ў Жэнэву, пакуль у Лізе Народаў будзе Абісынія і пакуль ня будуць зьнесены санкцыі. Санкцыі ўжо зьнесены. Ініцыятаркай зьнясеньня санкцыяў была Англія, саюзьніца Абісыніі, якая іх увяла і потым зьняслі Францыя, потым Польшч, а потым і іншыя дзяржавы. Кажуць, нашто санкцыі, калі вайна ўжо скончана? Нішто ўжо не ўскрасіць Абісыніі—сказаў англійскі палітык Чэмбэрлен — і рада міністраў Англіі вынесла пастанову скасаваньня санкцыяў, хоць пры гэтым заявіла, што скасаваньне санкцыяў яшчэ не азначае прызнаньня Абісыніі за Італіяй... Значыць, адзін варунак Муссоліняга ўжо споўнены. Але хочучы дзяліцца „ўплывамі" ў Абісыніі з Італіяй, Англія стараецца споўніць і другі ягоны варунак: выкінуць Абісынію з Лігі Народаў... Але выкідаць няшчаснага чалавека ды яшчэ свайго „саюзьніка" і то перад усім сьветам, рэч вельмі непрыемная, дык Англія выдумала новую штуку: зрэфармаваць Лігу Народаў. Пры рэформе будзе новы запіс сяброў, а та-

## Прывет ад Цэнтральнага Ураду БІГ і К.

З прычыны юбілею 10-ых угодкаў існаваньня Жодзішнага гуртка БІГ і К, Цэнтральны Урад пераслаў на рукі Ўраду Гуртка прывітаньне такога зьместу:

*Ураду Гуртка Бел. Інстытуту Г. і К у Жодзішках.*

*„У дзесятыя ўгодкі існаваньня Гуртка Цэнтральны Урад Бел. Інстытутv Гаспадаркі і Культуры перасылае Ураду і ўсім сябром Гуртка сваё шчырае прывітаньне з пажаданьнем, каб гурток і надалей праз многія гады працаваў для дабра Беларускага Народу.*

*Няхай жыве Жодзішны Гурток, як моцны вясковы цэнтр культуры, прасьветы і адраджэньня Беларускага Народу!*

*Хай жывуць барацьбіты за беларускую Культуру!*

*кс. В. Гадлеўскі*
*Старшыня Цэнтр. Ураду БІГ і К.*

---

ды можна будзе абісынскага нэгуса, які цяпер для Англіі вельмі клапатлівы, ў абноўленую Лігу Народаў ня прыняць — і Італія зможа вярнуцца ў Жэнэву, каб супрацоўнічаць разам з Францыяй і Англіяй... Гэта мае стацца ўвосень г. г.

Але тымчасам зьявілася і апазыцыя проціў нягоднай англійскай палітыкі. На чале апазыцыі сталі малыя сярэдне-амэрыканскія рэспублікі. Ці за імі стаіць нехта — згадаць трудна, кажуць, што Злуч. Штаты Паўночнай Амэрыкі, якія хочуць арганізаваць амэрыканскую Лігу Народаў. Калі-б гэта была праўда, дык амэрыканскія рэспублікі ўсе пакінулі-б Жэнэву і далучыліся-б да амэрыканскай Лігі. Дагэтуль пакінулі жэнэўскую Лігу сярэдне-амэрыканскія рэспублікі (Гондурас, Гватэмала, Нікарагуа), якія знаходзяцца пад уплывам Злуч. Штатаў. Калі пакінуць усе амэрык. дзяржавы, дык жэнэўская Ліга асталася б толькі эўрапэйскай Лігай Народаў, а не сусьветнай.

### Нэгус перад Лігай Народаў.

Дн. 30. VI. г. г. адчынілася сэсія Лігі Народаў. У абароне Абісыніі выступіў сам нэгус. Сказаўшы пару сказаў пафранцуску, ён гаварыў далей паабісынску, а яго прамову тут-же перакладалі. Скаржыўся ён на несправядлівасьць, на якую пазволілі 52 дзяржавы, якія знаходзяцца ў Лізе Народаў і жадаў справядлівасьці для свайго краю. Ліга выслухала нэгуса і — пастанавіла скасаваць санкцыі адносна Італіі. Пры гэтым пацешыла нэгуса, што скасаваньне санкцыяў яшчэ не азначае прызнаньня Абісыніі за Італіяй.

Італія прыслала ў Лігу мэмарыял, у каторым абяцае правіць Абісыніяй паводле правіл Лігі Народаў і вымогаў цывілізацыі... Несьці цывілізацыю ў Абісынію Італія ўважае за свой сьвяты абавязак...

У часе прамовы нэгуса італійскія журналісты зрабілі дэманстрацыю, пускаючы ў ход сьвісьцёлкі і нейкія трашчоткі. Паліцыя вывела іх з залі паседжаньня Лігі і арыштавала, а прысутныя ўстроілі нэгусу доўгую авацыю праз дружныя воплескі. Гэта была для нэгуса ўся і, здаецца, апошняя пацеха.

### Падзеі ў Палестыне.

Увагу ўсяго сьвету зварочваюць падзеі ў Палестыне, якую Англія атрымала ў 1922 г. як мандат ад Лігі Народаў, пасьля сусьветнай вайны. У гэтым краі жыды, з дазволу Лігі Народаў і Англіі, пастанавілі адбудаваць сваю дзяржаўнасьць. Дзеля гэтай мэты капітал паплыў з усяго сьвету разам з жыдамі ў гэты край. У 1931-36 г.г. лік жыдоў у Палестыне ўзрос да 400 тысяч чалавек і становіць цяпер каля 30 прац. насельніцтва. Гэтакі шпаркі ўзрост жыдоўскага насельніцтва, а яшчэ больш ягоны капітал, напужаў арабаў і яны сталі супраціўляцца жыдоўскай колёнізацыі у Палестыне (арабаў там ёсьць — каля 800 тысяч.) Барацьба арабаў з жыдамі адбывалася і ў прошлыя гады, але ніколі не праяўлялася з такой сілай, як сёлета. Відаць, што ў бязупыннай барацьбе падгатовілася адна старана і другая. Арабаў дражніць тое, шко жыды ў Палестыне маюць свае вайсковыя арганізацыі, раскіданыя па усіх сёлах і гарадах і маючыя стрэльбы, амуніцыю і кулёметы. Сёлы жыдоўскія злучаны паміж сабою падземнымі тэлефонамі. Проціў жыдоўскіх арганізацыяў арабы паставілі сваю вайсковую арганізацыю, толькі ня так узброеную, як жыдоўскія. Пры гэткім ваенным настроі трэба было толькі кінуць іскру, каб загарэлася вайна. І іскра была кінута. Пару месяцаў таму арабы забілі жыда, жыды забілі двух арабаў, арабы забілі 7 жыдоў — і гэтым пачалася вайна паміж двума народамі.

Спачатку арабы выступілі проціў жыдоў, але калі англійцы пачалі іх бараніць, арабы паднялі паўстаньне проціў англійцаў. Па ўсім краі была абвешчана агульнага забастоўка, якая трывае па сяньняшні дзень, спынена плачэньне падаткаў, абвешчаны байкот жыдоўскіх і англійскіх тавараў; арабы задзержываюць аўтабусы і цягнікі, псуюць тэлефонныя і тэлеграфныя лініі, нападаюць на жыдоўскіх і англійскіх салдат, кідаюць бомбы—словам паднялі фармальнае паўстаньне проціў англійскага панаваньня ў Палестыне. Англія пасылае туды войска, танкі і аэрапляны, якія абстрэльваюць арабскіх паўстанцаў, але тыя страляюць нават па англійскіх аэрапляннах. Забітых і раненых жыдоў, арабаў і англійцаў ужо лічаць каля 5 тысяч чалавек. Каля 2 тысяч арабаў арыштаваных.

Павадыр палестынскіх арабаў, Гамін эль Гусэін, на кангрэсе арабаў злажыў такое шлюбаваньне: „Прысягаю перад Богам і перад усімі вернымі, што палажу ўсе свае сілы, аддам сваё жыцьцё і асобу дзеля перамогі народнай справы, дзеля здабыцьця незалежнасьці краю. Забавязваюся ахвяраваць палавіну ўсяго, што маю і аддаваць палавіну сваіх даходаў на фонд праводжанага цяпер змаганьня“. Гэтакую-ж прысягу зрабілі ўсе сябры кангрэсу — ўжо ня так проціў жыдоў, як проціў англійцаў.

Жаданьні арабаў такія: поўнае спыненьне жыдоўскай колёнізацыі; забарона жыдам купляць зямлю; скасаваньне ўсіх умоў куплі і прадажы зямлі, зробленых у працягу апошніх пяці гадоў; звальнене ўсіх арабскіх палітычных вязьняў; утварэньне нацыянальнага арабскага ўраду. Ва ўсім руху бярэ жывы ўдзел арабская моладзь. Чым скончыцца—згадаць трудна, бо ані Англія, ані арабы на ўступкі ня йдуць. Кажуць, што арабаў паддзержывае Італія, бо адкуль арабы маюць кулямёты і амуніцыя? Трэба яшчэ ведаць, што арабы маюць добра апрацаваны плян дзейнасьці і добрае кіраўніцтва.

Англія перад арабамі ня йдзе на ўступкі, аб гэтым сьведчыць заява англійскага Высокага Камісара ў Палестыне, каторы заявіў: „ніякі страйк і ніякія акты гвалту не саб'юць ураду з дарогі поўнага выкананьня забавязаньняў, выплываючых з мандату над Палестынай“.

Як бачым, адносіны вельмі вострыя. Паводле апошніх вестак, на помач палестынскім арабам ідуць арабы з другіх краёў, проціў Англіі мабілізуецца ўвесь мусулманскі сьвет; чым усё гэта скончыцца — пакажа будучыня. Кажуць, што калі пагодзяцца Італія з Англіяй, то спыніцца і арабскае паўстаньне. Паглядзім.

### Выбары і неспакой у Літве.

9 чэрвеня адбыліся выбары ў Сойм, які ня быў склікаты і наагул не існаваў у Літве ад 1927 году г. зн. ад перавароту, дакананага Вальдэмарасам. Сам пераварот быў дакананы 17.XII. 1926 г. але сойм распушчаны 12 IV.1927 г. Ад гэтага часу Літва аставалася бяз народнага прадстаўніцтва. Краем кіравала адна партыя таўтінінкаў (народнікоў) на чале з прэз. Смэтонай, пры падтрыманьні вайсковых сфэраў. Цяпер-жа, пры стабілізацыі гэтай улады і пры наяўнасьці неспакою ў краі, паклікана народнае прадстаўніцтва ў ліку 49 асоб. Выбарчая ардынацыя ўведзена такая, як ў Польшчы, г. зн. кандыдатуры на паслоў выстаўляюць самаўрады, дык выбар большасьці таўтінінкам запэўнены. Аднак рэзультаты выбараў яшчэ няведамы.

Пры цяжкім эканамічным палажэньні, якое не абмінула і Літвы, пачаліся спачатку сялянскія забурэньні (ў прошлым годзе), а нядаўна былі забурэньні і ў Коўне, пры якіх былі забітыя і раненыя. Прычынаў забурэньняў шукаюць у цяжкім гаспадарчым палажэньні, (вываз у Нямеччыну цяпер спынены, прадукты, замест з Літвы, дастаўляе Баўгарыя), у агітацыі быўшых літоўскіх апазыцыйных партыяў, якія там развязаны і — у камуністычнай рабоце. Урад рашуча ліквідуе ўсякія выступленьні.

### Выбары і страйкі ў Францыі.

Апошнія выбары, як ведама, далі перамогу г. зв. „народнаму“ фронту, у які ўвайшлі камуністы, сацыялісты і радыкалы. На прэм'ера быў паклікаты павадыр сацыялістаў Блюм, жыд (да свайго жыдоўства ён адкрыта прызнаецца); ён, фармуючы кабінэт міністраў, запрасіў да ўраду і камуністаў, але тыя, ня хочучы браць на сябе адказнасьці за цяжкое палажэньне Францыі, адмовіліся, дэкляруючы толькі помач ураду Блюма.

Зараз пасьля выбараў у Францыі пачаліся вялізарныя страйкі (страйкавала болей паўмільёна чалавек), урад Блюма ня мог даць рады страйкам. Тады на помач Блюму прыйшлі камуністы. Павадыр камуністаў, Торэс, заявіў, што трэба *ўмець* ліквідаваць страйкі— і страйкі былі зьліквідаваны. Гэтым камуністы паказалі сваю сілу ў Францыі, а так-жа споўнілі наказ агульнай камуністычнай палітыкі, якая ня хоча тымчасам аслабляць Францыі, як саюзьніцы Саветаў у змаганьні з Гітлерам. Як мы ўжо казалі, Саветам патрэбна сільная Францыя, каб удзяржаць Нямеччыну ў яе імкненьні на Усход...

### Чатыры дынамічныя дзяржавы.

Найболей неспакою ў сусьветнай палітыцы прыносяць чатыры дзяржавы: Італія, Нямеччына, СССР і Японія. Дзейнасьць і мэты Італіі мы ўжо збольшага схарактэрызавалі; у наступных нумарох будзем пісаць аб імкненьнях іншых „дынамічных“ дзяржаў. Ведаючы мэты кожнай дзяржавы, лёгка можна зразумець яе палітычныя ходы. Найтрудней зразумець, хто з кім, бо як кожны флірт, так і флірт палітычны, адбываецца пачаткова ў скрытнасьці, толькі потым становіцца яўным. Пры банкруцтве Лігі Народаў, палітычныя саюзы маюць цяпер вялізарнае значэньне. На іх зьвернем увагу. Хто з кім і проціў каго...

---

# З Польшчы.

### Галоўныя мэты польскай палітыкі.

Польская палітыка ў сучасны мамэнт ідзе ў 4-х кірунках: 1) злагодзіць гаспадарчыя труднасьці, 2) успакоіць край, 3) стварыць урадавую групу (нешта падобнае да зьліквідаванага ББ. і 4) на ўсялякі выпадак дазброіцца на сушы і на моры.

### Гаспадарчыя труднасьці.

Міністар скарбу Квяткоўскі ў сойме заявіў, што Польшч знаходзіцца ў трудным гаспадарчым палажэньні і як ратунак падаў некалькі спосабаў: барацьба з беспрацоўем пры помачы чатырохгадовага інвэстыцыйнага пляну; узмацненьне вытворчых і кансумпцыйных сіл краю, з тым, каб болеў спажывалі і куплялі, што выкліча большую вытворчасьць, а пры большай вытворчасьці будзе болей працы і захаваньне раўнавагі дзяржаўнага даходу і расходу (бюджэту), які яшчэ ня кожны месяц ёсьць зраўнаважаным (травень выказаў дэфіцыт) а за ўвесь час крызысу дэфіцыт польскага бюджэту выносіць аграмадную суму 1 мільярд 400 мільёнаў зл.; урэшце міністар яшчэ раз пацьвярдзіў імкненьне ўраду ўдзяржаць польскую валюту на сучаснай вышыне.

Чатырох-гадовы інвэстыцыйны плян публічных работ прадбачыць 1 мільярд 800 мільёнаў злотых, якія трэба было-б сабраць з насельніцтва; як сабраць гэтую вялізарную суму, міністар не сказаў і наагул не падаў спосабаў рэалізацыі інвэст. пляну, так што некаторыя газэты востра і нават злосна крытыкавалі пляны мін. Квяткоўскага, кажучы што „kapitałem zakładowym p. ministra jest wiara, a kapitałem obrotowym — frazesy“ („Słowo”) Былі нават разыйшоўшыся чуткі, што каб павялічыць запас золата ў Польскім Банку, будзе абвешчана прымусовае спаганяньне золата з грамадзян, але гэтым чуткам запярэчылі. Наагул заўважваецца ў польскай гаспадарчай палітыцы вялікае ажыўленьне, з тым, каб не перачакаць крызыс, але яго пераламаць. Ці ўдасца — пакажа будучыня.

### Успакаеньне краю.

Вялікія труднасьці мае ўрад з эндэцкімі выступленьнямі, якія разьвіваюцца на анты-жыдоўскіх настроях мас. Праўда, жыды часам зьяўляюцца як-бы пачынальнікамі гэтых выступленьняў (як напр. у Мінску Мазавецкім, дзе жыд забіў вахмістра польскага войска), але для ўсіх ведама, што галоўнымі ініцыятарамі проціўжыдоўскіх выступленьняў ёсьць эндэкі. Гэтыя выступленьні часам набіраюць такой сілы, што адбываецца фармальная вайна паміж жыдамі і хрысьціянамі, як напр. у Пшытыку, дзе былі забітыя і раненыя як з аднаго, боку, так і з другога; у Мінску Маз. былі спалены 3 жыдоўскія дамы, а 5 адратаваны, жыдоўскае насельніцтва ў большасьці ўцякло з гораду.

Але рэкорд пабіў нейкі інж. Добошынскі, які, сабраўшы каля 150 чалавек эндэцкай моладзі напаў уначы 23.VI. на паветавае места Мысьленіцэ (каля Кракава), заўладаў местам, аграбіў яго, стэрарызаваў старасту і ўцёк у лясы, дзе банду яго пасьля аружнага змаганьня паліцыя акружыла і вылавіла.

Сам Добошынскі быў злоўлены, як уцякаў заграніцу; прыгэтым ён быў ранены ў руку. Як рэзультат выступленьня Добошынскага былі арышты галоўных эндэцкіх павадыроў у Кракаве і высылка іх у Бэрэзу. Мін. Складкоўскі заявіў, што ён будзе браць не парабкоў, а павадыроў, хоць-бы яны і не прыймалі дзейнага ўчасьця ў выступленьнях, бо ўважае іх за інспіратараў гэтых выступленьняў. Ці выступленьне Добошынскага мела мясцовы характар, ці было закроена ў шырэйшым маштабе—няма ведама. (Дзеля нястачы месца ня можам падаць поўнага агляду польскага паліт. жыцьця).

---

*Наступны нумар „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ“ выйдзе 5-га жніўня.*

**Рэдакцыйная калегія:**

*інж. Л. Дубейкаўскі,*
*мгр. В. Гадлеўскі,*
*мгр. М. Шкелёнак,*
*студ. В. Папуцэвіч.*

Рэдактар-Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14